**Адна зямля**

Мядзел · Астравец · Смаргонь · Вілейка · Ашмяны · Маладзечна · Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 ліпеня 2014 года №29 (1003)

**Па выхадных каса не дае выспацца?**
Куды звяртацца, калі з самай раніцы ў выхадны дзень пад вокнамі гудуць бензакосы?
старонка 2

**Хочаш закалоць свінку – вязі на бойню**
Што рабіць, калі сусед забівае свіней на продаж у двары свайго прыватнага дома
старонка 3

**Разыгралі кубак па пляжным валейболе**
с. 22

**Атрымалі 240 мільёнаў рублёў на праекты**
с. 5

**"Ратуйце! Украінцы захапілі жонку", – крычаў жыхар Валожыншчыны і бег да суседзяў**
с. 4

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Тэатры прэтэндуюць на прэмію

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечна бярэ удзел у III рэспубліканскім конкурсе тэатральнага мастацтва "Нацыянальная тэатральная прэмія", які пройдзе восенню. Мінскі абласны драматычны тэатр пакажа спектакль "Падобны на Стынга" Ірыны Пісьменнай. Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" – "Шматкі па закуточках" Рыгора Осцера.

### Збіў 5-гадовае дзіця

**ВАЛОЖЫН.** Здарэнне адбылося ў вёсцы Сівіца 15 ліпеня. На хлопчыка наехаў "Пежо". Дзіця атрымала чэрапна-мазгавую траўму. Аўтамабілем кіраваў 18-гадовы хлопец. Па папярэдніх дадзеных, дзіця раптам выбегла на праезную частку дарогі.

**Аддзел інфармацыі.**



# "Нельга аддаваць варварам косці людскія"

## У Валожыне прайшоў пікет супраць будаўніцтва дамоў на месцы пахавання яўрэяў

Фота Алега ГРУЗДЗІЛОВІЧА, svaboda.org.

Злева направа: заяўнік пікета краязнаўца з Валожына Георгі Каржанеўскі, актывісты моладзевага руху "Нэцэр" Стась Турко і Яўген Клябанаў.

**ВАЛОЖЫН. 14 ліпеня да стадыёна, дзе адбывалася акцыя, прыйшло каля 20 чалавек. Удзельнікі ўсклалі вянкі да скульптуры журботнай маці ў памяць расстраляных.**

Мясцовыя жыхары называюць яе "Маці Божай польскіх яўрэяў".

– На гэтым месцы хочуць пабудаваць дамы, якія будуць стаяць наўпрост на яме, дзе закопвалі яўрэяў, – распавядае арганізатар пікета валожынец **Георгі Каржанеўскі**. – Здарылася гэта ў лістападзе 1941 года. І пра выпадак напісана ў кнізе Мечыслава Новака ("Крывавы след нямецка-фашысцкай акупацыі ў гісторыі Валожынскага раёна" – рэд.). Аднак раскопак тут ніхто не праводзіў.

**Фірмы "Дан Прод" і "Трайпл" плануюць на гэтай тэрыторыі пабудаваць дамы для вайскоўцаў і работнікаў свінакомплексу.**

У акцыі супраць будаўніцтва бралі ўдзел і двое актывістаў яўрэйскага моладзевага руху "Нэцэр" **Стась Турко** і **Яўген Клябанаў**.

– Хлопцы расказалі, што па традыцыі яўрэяў на месца пахавання не ўскладаюць кветкі, а кладуць каменьчыкі, – зазначыў арганізатар акцыі **Георгі Каржанеўскі**. – Тады мы знайшлі некалькі і таксама паклалі. У наступны раз ужо будзем ведаць.

Пасля Стась і Яўген прачыталі Тору, малітву. Удзельнікі наведалі могілкі, дзе пахаваныя яўрэі.

**Акцыя была дазволеная ўладамі. Раней яе арганізатар Георгі Каржанеўскі сабраў 35 подпісаў тых, хто супраць будаўніцтва.**

### Зямля хадуном хадзіла

На пікет прыйшлі і сталыя людзі, якія на свае вочы бачылі расстрэлы на гэтым стадыёне падчас Другой сусветнай вайны.

Тады ў Валожыне было гета. І яго насельніцтва паступова знішчалася ў адной частцы горада (сёння – ад вуліцы Някрасава да Кастрычніцкай).

– Спачатку пад кулі трапілі лепшыя. Ваенныя, спартсмены, што былі небяспечныя для ўлады, – распавядае спадар Георгі. – Іх завялі ў вайсковы кінатэатр, быццам папрацаваць на тэрыторыі вайсковай часці. А потым выводзілі па дзесяць чалавек і расстрэльвалі. Сярод адной дзясяткі апынуўся валожынскі рабін. Ён сказаў "у мяне не страляйце" і сам скочыў у яму. За ім і астатнія дзевяцера скочылі. Пасля расстралялі апошніх і засыпалі зямлёй. Людзі спрабавалі выбрацца. Зямля хадуном хадзіла, падымацца стала.

Траім удалося ўцячы.

Мясцоваму жыхару **Міколу Рындзевічу** бацька расказваў, што рукі з зямлі тырчалі.

Дзесьці паўтара месяца таму ў Валожын прыязджала з Францыі пляменніца таго самага рабіна **Вэрніс Духуа**.

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

**Заканчэнне на 2-й старонцы.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Па выхадных каса не дае выспацца?

**Куды звяртацца, калі з самай раніцы ў выхадны дзень пад вокнамі гудуць бензакосы? Ці павінны выконваць нормы кашэння травы ў горадзе?**



Ля рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" касіць пачалі ў 11 раніцы.

Фота Наталлі ТУР.

На пытанні адказвае намеснік дырэктара па жыллёвых і камунальных пытаннях Валожынскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Міхал Унучак.**

З надыходам лета многім гараджанам знаёмая сітуацыя, калі пад вокнамі з самай раніцы пачынаюць працаваць касцы. І вось што дзіўна, калі твой сон ужо перабіты і ты злы ідзеш на кухню варыць раніішняю каву, ад іх прастывае і след. І ўжо цэлы дзень прыслухоўваешся да гукаў пад акном і не разумееш, ну, няўжо была такая неабходнасць касіць траву а восьмай ці нават а сёмай гадзіне раніцы?

Мы вырашылі высветліць: калі паскардзіцца ў ЖКГ на касцоў з іх гудучымі бензакасілкамі, ці прыслухаецца хтосьці да нашага крыку душы?

– Па нормах касцы могуць касіць ад 8 раніцы да 23 гадзін вечара, – адразу развеяў думкі аб скандале ў ЖКГ Міхаіл Унучак. – Мы, канешне, разумеем жаданне грамадзян выспацца пасля працоўнага тыдня, але абставіны вымушаюць працаваць і ў суботу. Мы ж не працуем, калі ідзе дождж, а трава расце. Калі трава вырасце больш за 15 сантыметраў, яе ўжо цяжка касіць.

– А бывае, што і ў 7 раніцы косім, – працягвае Міхаіл Міхайлавіч. – Зразумейце і касцоў, ім вельмі цяжка касіць у 8-9 раніцы, калі на градусніку ўжо пад 30 градусаў.

**– Як часта вы косіце траву?**

– Мы косім траву кожны дзень. Пакуль работнікі з газонакасілкамі пройдуць усе двары, праходзіць тыдні тры, і ўжо даводзіцца пачынаць кашэнне па новым коле. Інакш кажучы, за лета пад вокнамі аднаго дома трава косіцца тры разы за лета. Пацярпіце, грамадзяне. Восенню касіць не будуць.

Эколагі таксама далучаюцца да меркавання работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі і лічаць, што ў горадзе траву павінны касіць.

Каментуе **Уладзіслаў Чарноў**, начальнік Маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя:

– Тое, што траву косяць у горадзе, так павінна быць. Трава – гэта родны дом для дробнай жыўнасці – насякомых, птушак. Калі не касіць, то ў траве разводзіліся б розныя насякомыя, чарвячкі ды жабкі. А ў горадзе яны не патрэбныя. Хай жывуць у няскошанай траве за горадам. Ды і нашмат прыгажэй глядзіцца газон, калі ён роўненька скошаны. Каб жа кожны пад вокнамі ствараў свой маленькі Версаль, дык, можа, і не касілі б. А так вельмі цяжка даглядаць за газонамі: палоць, паліваць і гэтак далей. Таму застаецца толькі змірыцца з тым, што касіць будуць.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

ГІСТОРЫЯ

## Ажывуць падзеі Першай сусветнай

**МЯДЗЕЛ. На Мядзельшчыне 19 ліпеня пройдзе першая ваенна-гістарычная рэканструкцыя "Нарачанскі набат", прысвечаная падзеям Першай сусветнай вайны на ўсходнім фронце.**

У часе мерапрыемства ля вёсцы Занарач адбудзецца ўрачыстае адкрыццё памятнага знака сібірскім стралкам, якія загінулі ў Нарацкай аперацыі 1916 года, прэзентацыя манаграфіі "Іркуцк і іркуцяне ў Першай сусветнай вайне", агляд фартыфікацыйных збудаванняў і іншае.

Сама ваенна-гістарычная рэканструкцыя падзей Першай сусветнай пройдзе ля вёскі Пасынкі. Пачатак – у 16.30, паведаміла галоўны захавальнік фондаў Мядзельскага музея народнай славы **Наталля Бурак**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Мінчанін на "Роверы" загінуў ля вёскі Літва

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ў сераду, 9 ліпеня, каля 22 гадзін.

31-гадовы жыхар Мінска ехаў на Маладзечна з боку Валожына. Пад'язджаючы да Літвы, на закругленні ўправа, ён няправільна выбраў хуткасць, не справіўся з кіраваннем і перакуліўся ў левы кювет.

Кіроўца "Ровера 214" загінуў на месцы аварыі.

Цяпер праводзяць экспертызу, ці быў ён цвярозы. Справа знаходзіцца ў Следчым камітэце.

## Не саступіў дарогу

**МАЛАДЗЕЧНА.** 8 ліпеня каля 8 раніцы адбылася аварыя ў 11-м мікрараёне.

29-гадовы кіроўца аўтамабіля "Форд-Эскорт" ехаў з другараднай дарогі па вуліцы Тамары Дудко. На перакрыжаванні з Вялікім Гасцінцам не саступіў дарогу машыне, што ехала па галоўнай.

"Форд" сутыкнуўся з "Нісанам-Прымера", якой кіраваў 29-гадовы жыхар Хажова.

Кіроўца "Нісана" і яго пасажыр з Магілёўскай вобласці атрымалі пашкоджанні. Следчы камітэт праводзіць праверку.

## 24-гадовы кіроўца збіў раварыстку

**МАЛАДЗЕЧНА.** 61-гадовую жыхарку Відзеўшчыны пасля аварыі шпіталізавалі ў траўматалогію.

Здарэнне адбылося вечарам 5 ліпеня. 24-гадовы кіроўца "Сітраэна-Ксантыя" ехаў у бок Краснага па дарозе Краснае-Відзеўшчына-Белева.

На ўчастку з нязначным закругленнем управа ён наехаў на раварыстку. Жанчына ехала ў спадарожным кірунку па крайняй левай паласе і перастройвалася.

Па факце аварыі праверку праводзіць Следчы камітэт.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



ПІКЕТ

# "Нельга аддаваць варварам косці людскія"

## У Валожыне прайшоў пікет супраць будаўніцтва дамоў на месцы пахавання яўрэяў

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

– Пакуль маю сілу і пакуль ёсць куды ехаць, трэба наведаць, – сказала тады яна.

Стадыён, які быў на месцы, дзе цяпер хочуць пабудаваць дамы, пачалі руйнаваць год таму. Па словах спадара Георгія, тады вайскоўцы знеслі бетонныя пліты агароджы, футбольныя вароты, лавы.

### "Навядуць парадак"

Па каментар мы звярнуліся да начальніка аддзела культуры, ідэалогіі і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама **Вікенція Адамовіча.**

**– Як вы ставіцеся да таго, што на месцы расстрэлу людзей будуць пабудаваныя дамы?**

– Няма афіцыйнага пацвярджэння аб тым, што менавіта на гэтым месцы расстрэльвалі яўрэяў. Сёння мы маем толькі тое, што на даўно закінутай пустцы нарэшце навядуць парадак. Што датычыцца памяці пра ваенныя часы, то мы яе ўшаноўваем. Непадалёк ад стадыёна, на ўзгорку, стаіць помнік, які заўсёды дагледжаны.

Вікенці Адамовіч заўважыў, што пакуль на стадыёне не вядуцца ніякія работы. Пікет жа прымусіць звярнуць увагу на тое, што тут адбываецца. Магчыма, запросяць спецыялістаў, каб правялі ў гэтых месцах раскопкі.

– І правільна было б пагутарыць з відавочцамі тых падзей, але ці застаўся хтосьці цяпер у жывых? – кажа ён. – І яшчэ: у футбол на гэтым месцы гуляць было нармальна, а пабудаваць такія неабходныя дамы – ганьба?

### Навошта гэты пікет

Падчас пікета некаторыя ўдзельнікі яго трымалі ў руках плакаты: "Тут пахаванне, а не будоўля", "Спыніце здзек з памяці", "Не – будаўніцтву на касцях ахвяраў Галакосту".

Арганізатар акцыі спадар Георгі лічыць, што ў гэтымі словамі ўсё сказана. І ён разам з мясцовымі жыхарамі-аднадумцамі гатовы змагацца за тое, каб памяць загінулых была ўшанаваная.

– Мы хочам, каб месца пахавання было вызначанае, – дадае арганізатар. – Дагэтуль тут не працавалі археолагі. А трэба, каб яны сюды прыехалі. Мы будзем змагацца за тое, каб тут не будавалі гэтыя дамы. Нельга, нельга аддаваць варварам косці людскія! І мы нікога не баімся, акрамя Бога.

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Хочаш закалоць свінку – вязі на бойню



Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

**ВІЛЕЙКА. Да нас у рэдакцыю звярнуўся чытач са скаргай на тое, што яго сусед забівае свіней на продаж у двары свайго прыватнага дома ў вёсцы Цна Асіпавіцкага сельсавета.**

– Наколькі я ведаю, – расказаў спадар **Леанід**, – што забіваць свіней у двары на продаж афіцыйна забаронена. Ці так гэта? І што рабіць нам, суседзям, калі кожны дзень чуем пах і віск свіней?

Па каментар да гэтай сітуацыі мы звярнуліся да галоўнага ветэрынарнага доктара Вілейскага раёна **Іосіфа Танковіча**:

– Забой скаціны ў дварах уласных дамоў на продаж забаронены, згодна з пастановай Савета Міністраў ад 25 жніўня 2013 года.

– Што датычыцца канкрэтнага падвор'я ў вёсцы Цна, – працягвае Іосіф Танковіч, – то я пра яго ведаю. Не адзін раз мы туды выязджалі. Там усё чысценька, няма ніякіх пахаў. Наколькі ведаю, гаспадар не трымае там свіней, а прывозіць з Маладзечна.

**– Мяркую, што суседзі з вамі не пагодзяцца, што там усё добра.**

– Гэта іх права. Калі яны бачаць парушэнні, хай тэлефануюць мне, або ў міліцыю.

**– Скажыце, а дзе ў такіх выпадках калоць свіней?**

– Для гэтага ёсць санітарная бойня ў вёсцы Даўгінава. Закалоць адну свінку гаспадарам будзе каштаваць 300 тысяч рублёў плюс выдаткі на транспарт.

**Наталля ТУР.**

## Урад: У Беларусі зніжаюцца цэны на мяса і мясапрадукты

Звесткі маніторынгу, якія праводзіцца на пастаяннай аснове органамі цэнаўтварэння, сведчаць аб тым, што ў рознічнай гандлёвай сетцы ў ліпені акрэслілася тэндэнцыя да зніжэння цэн на асобныя віды мяса (ялавічына, свініна, куры) і мясапрадуктаў.

Пра гэта гаворыцца ў паведамленні, размешчаным 15 ліпеня на сайце Савета Міністраў Беларусі.

Адзначаецца, што на зніжэнне цэн на мяса паўплывалі меры, прынятыя дэпартаментам цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі, у частцы накіравання лістоў-папярэджанняў і выдачы прадпісанняў асобным суб'ектам гаспадарання і дзяржаўным органам кіравання па спыненні парушэння антыманапольнага заканадаўства, якое выказалася ў значным павышэнні цэн на гэтую прадукцыю.

**"Наша ніва" паводле БелаПАН.**

| Курсы валют НБ РБ | 10.07 | 17.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 230,00 | **10 260,00** |
| Еўра | 13 920,00 | **13 910,00** |
| Злоты | 3 374,12 | **3 363,16** |
| Літ | 4 034,15 | **4 024,08** |
| Расійскі рубель | 300,00 | **298,50** |
| Грыўня | 878,11 | **874,49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13890/13990 | **13880/14000** |
| Долар ЗША | 10200/10240 | **10220/10280** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.07 | 16.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 137900 | **137900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 63000 | **62400** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 32900 | **30500** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 100000 | **110000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **33000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 95000 | **98700** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 13000 | **14500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 13000 | **14000** |
| **Алей "Масловія"** | 13000 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **7500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 9000 | **9000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11000 | **11500** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **4900** |
| **Морква**, 1 кг | 10000 | **9000** |
| **Буракі**, 1 кг | 10000 | **8000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 26500 | **26500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16000 | **16900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 27500 | **26500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18000 | **14500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 15000 | **11500** |
| **Перац**, 1 кг | 21000 | **16500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 29000 | **37000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13500 | **13500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 11800 | **9900** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **21500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 9000 | **9000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба** маладая, 1 кг | 5000 | **7000** |
| **Сала**, 1 кг | 100000 | **75000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 15000 | **15000** |

ЛІЧБА НУМАРА

18

мільёнаў чалавек у свеце святкуюць дзень нараджэння адначасова з вамі

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.



**Папраўка**

У нумары 27 ад 4 ліпеня на першай старонцы ў матэрыяле "Канстанцін Капсунаў – вызваліцель Маладзечна", чытаць трэба так: "Калі пачалася вайна, у вёску прыйшлі італьянцы" і далей па тэксце. Просім прабачэння ў героя публікацыі і чытачоў.

● ЗДАРЭННІ, КРАДЗЯЖЫ

# “Ратуйце! Украінцы захапілі жонку”, –

## крычаў жыхар Валожыншчыны і бег да суседзяў

**ВАЛОЖЫН. Гадзіннік паказваў чатыры раніцы. Мужчына з вёскі Гародзькі быў у паніцы. Ён спачатку грукаўся ў дзверы суседкі побач, але, не дачакаўшыся, пакуль яму адчыняць, пабег далей.**

Урэшце яму адчыніў сусед, што жыве крыху воддаль. Панікёр папрасіў выклікаць “102”. Ён працягваў крычаць: “Ратуйце! Украінцы ўзялі жонку!” і прасіў прыехаць як мага хутчэй.

Аднак калі міліцыянеры былі на месцы і ўбеглі ў дом, то ўбачылі дзвюх жанчын і хлопчыка, якія мірна спалі і, здавалася, ні пра што не падазравалі.



Пасля выпітага віна і гарэлкі мужчына пачаў размаўляць сам з сабой, крычаць і бегаць па доме.

### 10-гадовы хлопчык спаў, калі яго маці пырнулі нажом

Як высветлілася пасля, гісторыя пачалася днём раней, 27 чэрвеня.

Гэты мужчына разам са сваёй маці і суседкай селі днём распіць бутэлечку віна. Пасля з працы вярнулася яго сужыцелька, і на чацвярых яны распілі яшчэ чатыры ды зверху адну гарэлкі.

Было дзевяць вечара, калі суседка пайшла да сябе, а яго маці і сужыцелька ляглі спаць.

Гаспадар жа класціся не стаў. Ён пачаў сам з сабой размаўляць, бегаць па доме і крычаць. А пасля некуды сышоў. У той час яго сужыцелька падумала: “Сышоў – і добра. Спакайней будзе”.

Каля чатырох гадзін раніцы жанчына прачнулася ад рэзкага болю ў жываце.

Над ёй стаяў яе сужыцель з нажом і, быццам апамятаўшыся, перапытваў: “Ой, Іра, гэта ты?”

Аднак ад вялікай дозы алкаголю яна не адчула моцнага дыскамфорту і лягла спаць далей.

Ён пасля гэтага пабег да суседзяў, затым прыехала міліцыя…

Яму выклікалі “хуткую”, зразумеўшы, што ў яго, хутчэй за ўсё, гарачка. Але тады спахапілася сужыцелька, што ён жа пырнуў і што ёй трэба дапамога. Таму на “хуткай” забралі жанчыну.

Ёй зрабілі аперацыю.

Мужчына прызнаў сваю віну, але настойвае на тым, што зрабіў гэта ненаўмысна.

**Увесь гэты час у доме быў 10-гадовы хлопчык, сын пацярпелай. Ён спаў. Пакуль яго маці была ў бальніцы, ён знаходзіўся ў прытулку. Пасля жанчына забрала яго і разам з ім пераехала да сябе.**

Маці гаспадара дома, дзе адбылося здарэнне, таксама спала і нават не змагла хоць штосьці прыгадаць з той ночы.

Цяпер падазраваны знаходзіцца ў псіхіятрычнай бальніцы ў Навінках. Дзе экспертыза па высвятленні яго стану.

Мужчыну – 31 год. Яго сужыцельцы – 40. Разам яны жылі цягам васьмі гадоў.

Пра здарэнне распавяла старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

**Настасся РОЎДА.**

● КРЫМІНАЛ

# Мінчанін забіў дваіх чалавек і застрэліўся сам

**ВІЛЕЙКА. Увечары 10 ліпеня паступіла паведамленне аб страляніне ў вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна, паведамілі ў райаддзеле ўнутраных спраў.**

Па прыбыцці на месца здарэння следча-аператыўнай групы знайшлі труп 66-гадовай мясцовай жыхаркі і яе 59-гадовага суседа. У ходзе адпрацоўкі прылеглай тэрыторыі знайшлі трэці труп мужчыны, жыхара Мінска.

– Паводле папярэдняй версіі ўстаноўлена, што 51-гадовы мінчанін на глебе канфлікту нанёс сваёй сваячцы нажавыя раненні, а ў яе суседа стрэліў са сваёй паляўнічай стрэльбы. Пасля чаго застрэліўся сам, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

З месца здарэння забралі розныя аб'екты, якія сведчаць аб дачыненні загінулага мінчаніна да здзяйснення злачынства.

Цяпер апытваюцца сведкі, жыхары вёскі, забраныя і далучаныя да матэрыялаў крымінальнай справы прылады злачынства, у тым ліку і зарэгістраваная на падазраванага зброя. Прызначаныя неабходныя экспертызы.

Вілейскім раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа па факце забойстваў дзвюх асоб, учыненых з асаблівай жорсткасцю.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Дапамаглі міліцыі затрымаць злачынца

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі РАУС аб'явіў падзяку і ўзнагародзіў грашовай прэміяй людзей, што дапамагалі затрымаць хлопца, які забіў 73-гадовую жыхарку Мінска ля прыпынку “Мясата” 6 чэрвеня.**

Пра гэта “Рэгіянальная газета” пісала раней.

У той дзень білетны касір прыпынку “Мясата” **Людміла Ляшчынская** стаяла на пероне. Яе ўвагу прыцягнуў малады чалавек у капюшоне з рукзаком, што хуткай хадой ішоў за пенсіянеркай, якая адна крочыла ў бок лецішчаў.

Заўважыўшы, што малады чалавек нагнаў пажылую жанчыну і паміж імі пачаўся канфлікт, Людміла Ляшчынская патэлефанавала па мабільным тэлефоне манцёру Маладзечанскай дыстанцыі пуці. Манцёр **Фёдар Бабкоў** адразу пабег на месца здарэння, убачыў труп жанчыны і тое, як малады чалавек пабег у бок станцыі Уша.

Касір і манцёр тут жа патэлефанавалі манцёрам, якія працавалі на тым участку пуці, куды пабег меркаваны злачынец, каб яны яго затрымалі.

37-гадовы **Віктар Солдзень** і 23-гадовы **Дзяніс Жукаў** затрымалі хлопца, прывялі яго на станцыю Уша і выклікалі міліцыю. У той момант, як прызнаваліся самі манцёры, яны не думалі, наколькі гэта для іх саміх можа быць небяспечна. Ён жа мог мець пры сабе зброю.

Усе, хто спрычыніўся да затрымання злачынца, былі ўзнагароджаныя грашовай прэміяй.

**Наталля ТУР.**

# Тры крымінальныя гісторыі пра...

**ВАЛОЖЫН. За мінулыя выхадныя на Валожыншчыне адбыліся тры крадзяжы, якія і злачынствамі назваць цяжка.**

Хутчэй, гэтыя гісторыі з раздзелу: “Наўмысна не прыдумаеш”.

### Пыласос

Ён адбыўся ў вёсцы Манькаўшчына.

Раней судзімы жыхар Манькаўшчыны прыйшоў у госці да свайго аднавяскоўца, цяжкахворага інваліда, які не мог хадзіць. Ля яго ложка на тумбе стаяла бутэлька віна.

Паміж мужчынамі адбыўся наступны дыялог:

– Давай вып'ем вінца, – прапанаваў госць.

– Ды не хачу я піць, – адказаў гаспадар.

– А я хачу выпіць! І што ты мне зробіш? Вось вазьму бутэльку і ўцяку.

Так візіцёр і зрабіў.

Пацярпелы адразу выклікаў міліцыю. Міліцыянеры, якія прыехалі на месца здарэння, затрымалі несумленнага суседа.

Той, зразумеўшы наступствы свайго ўчынку, папрасіў прабачэння ў суседа-інваліда, вярнуў яму скрадзеную бутэльку віна.

Але за рабаванне горасуседу пагражае да шасці год зняволення.

### Віно

У вёсцы Гілікі таго ж Валожынскага раёна таксама знайшоўся нераўнадушны да чужога дабра раней судзімы жыхар.

Зайшоў ён на двор да сваёй суседкі пазычыць грошай на асабістыя патрэбы. Суседкі дома не аказалася. Ну, і давай тады госць гаспадарыць на падворку. У хляве, які быў не зачынены, мужчына знайшоў новенькі пыласос, схапіў яго пад пахі, як воўк авечку, і даў з ім дзёру ў суседнюю вёску.

Там ён прадаў пыласос адной запаслівай жанчыне за 100 тысяч рублёў.

На выручаныя грошы, вядома, зладзіў для сябе, прадпрымальнага, баляванне.

Суседка ж, не пажадаўшы так лёгка развітацца са сваім пыласосам, выклікала на дапамогу міліцыю. Міліцыянеры хутка знайшлі пыласос-вандроўнік ў суседняй вёсцы. Каштоўную рэч у новай гаспадыні адабралі і вярнулі на радзіму.

Як вынік – пыласос дома, злодзей пад'еў і выпіў, а суседка, што паквапілася на танную рэч, згубіла свае кроўныя 100 тысяч.

### І павальны сон

І яшчэ адна гісторыя пра тое, як сам Бог сну Марфей дапамог міліцыі раскрыць злачынства.

Раней неаднаразова судзімы жыхар вёскі Стракава Рэчка завітаў у госці да свайго сябра. Ды да такога блізкага, што нават ведаў, дзе той хавае грошы.

Як на тую бяду, гаспадар дома некуды ненадоўга адлучыўся. Гэтага часу хапіла, каб дастаць з патаемнага месца 400 тысяч рублёў і збегчы з месца злачынства.

Ідучы праз поле, ці то ад стомы, ці то ад раней выпітага алкаголю, злодзея пачало хіліць у сон. Далей усё як у песні: “А я лягу, прылягу на духмяным пракосе недаспелай травы”.

Толькі ідылію летняга адпачынку ў абдымках Марфея парушылі супрацоўнікі міліцыі, якія хутка знайшлі і соннага злодзея, і 400 тысяч у яго кішэні.

Гэтымі гісторыямі падзяліўся з “Рэгіянальнай газетай” следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Сяргей Лапцік**.

**Наталля ТУР.**

● І ТАКОЕ БЫВАЕ

# У Выверах работнікі МНС ратавалі карову

**МАЛАДЗЕЧНА. Паведамлене аб тым, што ў Выверах у калодзеж звалілася карова і неабходная дапамога выратавальнікаў, паступіла на “101” 13 ліпеня а пятай гадзіне вечара.**

Супрацоўнікі МНС на месцы высветлілі прычыну здарэння: карова, якая пасвілася на лузе, звалілася ў калодзеж.

Калодзеж глыбінёй два метры з жалезабетонных кольцаў дыяметрам 1 метр, які знаходзіцца ў Выверах у 20 метрах ад дарогі, быў накрыты лістом бляхі.

Работнікі МНС сумесна з мясцовым насельніцтвам з дапамогай спецыяльных прылады і трактара-пагрузчыка “Амкадор” ААТ “Усход-Агра” карову дасталі з калодзежа літаральна праз паўгадзіны.

Жывёла не пацярпела, ветэрынарная дапамога ёй не спатрэбілася.

**Наталля ТУР.**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Атрымалі 240 мільёнаў рублёў на праекты

**АСТРАВЕЦ. Новы басейн, экскурсіі па месцах баёў, дапамога маладым інвалідам. Грошы на гэтыя праекты – вынік перамогі ў конкурсе.**

Ужо трэці год Ніжагародская інжынірынгавая кампанія “Атамэнергапраект” ладзіць конкурс дабрачынных праектаў. Сёлета ў конкурсе ўпершыню ўдзельнічалі арганізацыі Астравецкага раёна – “НІАЭП”, генеральны праекціроўшчык і генеральны падрадчык Беларускай АЭС.

Конкурс праводзілі для падтрымкі ініцыятыў у вырашэнні актуальных сацыяльных праблем.

З Астраўца для ўдзелу дасылалі сем заявак, тры з іх увайшлі ў лік пераможцаў.

**Грант у 500 тысяч расійскіх рублёў (каля 150 мільёнаў рублёў) атрымае Астравецкая раённая бальніца.**

Бальнічны праект “За здаровы лад жыцця” перамог у намінацыі “Маладое пакаленне”.

Як распавёў намеснік галоўнага доктара бальніцы **Уладзімір Мажэйка**, грошы пойдуць на рэканструкцыю басейна ў аддзяленні рэабілітацыі.

– Гэтых сродкаў хопіць на рэканструкцыю чашы, – патлумачыў Уладзімір Часлававіч. – Плануем таксама ўкласці сродкі ад пазабюджэтнай дзейнасці.

У гэтай жа намінацыі ў лік пераможцаў увайшоў праект тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання “Акно ў свет”. На рэалізацыю праекта выдаткавалі 160 тысяч расійскіх рублёў (48 мільёнаў рублёў). Іх рэалізуюць на праграму для маладых інвалідаў.

Праект раённага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі “Сцяжынкай вайны. Дарогамі Перамогі” стаў пераможцам у намінацыі “Культура і спорт”. Як распавяла дырэктар цэнтра **Наталля Сянюць**, на атрыманыя 150 тысяч расійскіх рублёў (45 мільёнаў рублёў) астравецкія школьнікі змогуць паехаць па месцах баявой славы.


Фота zamnoy.com.

**Помнік воінам-вызваленцам у Астраўцы. Удзельнікі конкурсу праектаў выйгралі грошы ў тым ліку і на экскурсіі па месцах баёў.**

**На рэалізацыю кожнага праекта ёсць паўгода. Усяго астравецкія арганізацыі атрымалі 243 мільёны на гэтыя тры праекты.**

На конкурс паступіла 101 заяўка ад 81 установы. Конкурс праводзіўся ў намінацыях “Маладое пакаленне”, “Экалогія”, “Культура і спорт”, “Патрыятычныя ініцыятывы”.

**Аляксандра НАВАСНАЯ,**
**Астравец.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Пасля лячэння ў Сашы новыя дасягненні. Патрэбны працяг

**МЯДЗЕЛ. Тры месяцы таму “Рэгіянальная газета” расказвала пра чатырохгадовую Аляксандру Якушэнку з курортнага пасёлка Нарач (Купа).**

Яна з трохмесячнага ўзросту змагаецца з хваробамі: адразу ёй паставілі дыягназ гідрацэфалітны сіндром, потым на фоне гідрацэфаліі застаўся ДЦП.

Мама Сашы – **Наталля Мацкевіч** – расказвае, што з дапамогай неабыякавых людзей Саша прайшла ў чэрвені другі курс лячэння ў клініцы ў Трускаўцы (Украіна) па метадзе прафесара **Уладзіміра Казяўкіна.**

Дапамаглі і ахвяраванні ад людзей з нашага рэгіёна. Паступалі яны з Валожына, Маладзечна, Мядзела, іншых мясцін.

Саша з клінікі выпісалася са станоўчай дынамікай і новымі дасягненнямі. Пасля другога курса лячэння ў яе яшчэ больш падужэла спінка, з’явілася больш сілы ў ручках, яна стала ўпэўнена стаяць. І ўжо самастойна есць.

Сям’я дзяўчынкі шчыра дзякуе ўсім-усім, хто адгукнуўся на просьбу аб дапамозе.

Прафесар прызначыў Сашы трэці курс лячэння ў клініцы ад 15 да 27 снежня. На гэта патрабуецца 3712 еўра. Таму сям’я дзяўчынкі звяртаецца з просьбай аб дапамозе на праходжанне чарговага курса лячэння.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота забяспечана Наталляй МАЦКЕВІЧ.

**Дзяўчынцы з Мядзельшчыны патрэбная дапамога ў барацьбе з хваробамі.**

## Як можна дапамагчы

Рэквізіты дабрачыннага рахунка ў цэнтры банкаўскіх паслуг №619 ААТ “ААБ “Беларусбанк” г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4, УНП 600198997, МФО 153001769

– беларускія рублі – транзітны рахунак №3819382190343 на дабрачынны рахунак №000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

– расійскія рублі – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак №000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

– долары ЗША – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак №000025 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

– еўра – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак №000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

Назначэнне плацяжу: Мацкевіч Наталля Рыгораўна, на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны.

Адрас для паштовага перавода: 222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д. 13, кв. 28, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне. Назначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны, згодна з выпісаным эпікрызам №21777/573 і пасведчаннем серыі 09 №0431282.

Картка Беларусбанка 4255200037125143 да 11.17; карт-рахунак 637000489.

Кантакты: 8 (01797) 47-0-84 – дамашні тэлефон, +37529 256-75-32 – Наталля, мама Сашы.

Больш варыянтаў для дапамогі Сашцы – на сайце rh.by



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якія стравы вы гатуеце і ясце ў спёку?



**Ірына Андрыеўская, пенсіянерка:**

– Летам любімая страва, вядома, халаднічок са шчаўя. Таксама раблю лёгкія салацікі з перчыка, агурочка і памідорчыка.



**Галіна Рагоўская, пенсіянерка:**

– Халаднік робім, салаты з гародніны сваёй. І летам робім нарыхтоўкі на зіму, агурочкі свае, з дачы, солім, марынуем.



**Віталь Мітраховіч, дарожны рабочы:**

– Летам у гарачыню і есці не хочацца. Мінералку толькі п’ём.



**Ганна Качан, пенсіянерка:**

– Агурочкі, памідорчыкі. Ну і кілбасу купіла, як жа без яе. Я перац вельмі люблю. Летам ем свежы, а на зіму нарыхтоўваю ў таматным соусе.



**Наталля Кітрар, турагент:**

– Салаты робім з капусткі, з зяляніны. Нарыхтовак на зіму не раблю, гэтым мама мая займаецца. А я летам назапашваю вітаміны.



**Васіль Дзюндзін, ветэран Вялікай Айчыннай вайны:**

– Летам звычайна п’ю кампот – слівавы, вішнёвы, яблычны. Яблыкі ўвогуле ем кожны дзень. А так я ем усё, не гляджу на пару года.



**Юлія Танюкевіч, школьніца:**

– Сокі п’ю летам з лёдам. Ягады летам люблю есці, фрукты. Не ўяўляю сабе лета без малін і чарніц.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**



Сяргей Макарэвіч, сябра студэнцкага этнаграфічнага таварыства.



Фота Кацярыны АРАКЧЭЕВАЙ.

Марыя Кляўда з вёскі Хамянцы ўспамінае мінулае ў размове з удзельнікамі экспедыцыі.

ЭКСПЕДЫЦЫІ

# Маладыя этнографы пераймаюць традыцыі

**ВІЛЕЙКА. Ад 30 чэрвеня ў Вілейскім раёне праходзіць этнаграфічная экспедыцыя.**

Арганізавала яе рэспубліканскае моладзевае грамадскае аб'яднанне "Студэнцкае этнаграфічнае таварыства". Удзельнікі экспедыцыі будуць збіраць у раёне матэрыял да 20 ліпеня.

Вось што расказаў **Сяргей Макарэвіч**, сябра студэнцкага этнаграфічнага таварыства, студэнт эканамічнага ўніверсітэта.

**– Колькі чалавек удзельнічае ў экспедыцыі?**

– На працягу ўсёй экспедыцыі будзе задзейнічана каля 30 чалавек. Штодня працуе некалькі груп – агулам 8-12 чалавек. Колькасць удзельнікаў мяняецца, увесь час людзі прыязджаюць, ад'язджаюць: не ўсе маюць магчымасць правесці цалкам тры тыдні ў экспедыцыі.

**– І якая яе мэта?**

– Асноўная мэта ўсіх нашых экспедыцый – захаванне і пераймание беларускай культурнай традыцыі. Даследуем Вілейскі раён, імкнёмся ахапіць як найбольш тэрыторыі. Гэта для таго, каб скласці нейкае ўяўленне пра традыцыі, уласцівыя той ці іншай частцы раёна, каб можна было параўнаць іх з раёнамі, якія мяжуюць з Вілейскім.

**– Адкуль пачалі сваю экспедыцыю?**

– Пачалі з вёскі Кульшыно. Даследавалі навакольныя вёскі – Любань, Журыхі, таксама тыя, якія размешчаныя ў накірунку Іжы. І трэба сказаць, што з першых дзён шмат этнаграфічных звестак атрымалі, пабачылі, што даволі багата захавалася тэкстылю і таго, што адносіцца да ткацтва, іншых рамёстваў. Праца тут цікавая і вельмі плённая.

**– З якіх рэгіёнаў удзельнікі экспедыцыі?**

– Людзі з розных мясцін: Магілёва, Віцебска, Мінска, Гомеля. Яны проста неабыякавыя да захавання спадчыны, ім цікава параўнаць песні і звычаі свайго рэгіёна і Вілейшчыны. Дзякуючы падтрымцы вілейскага музея і выдання "Волат" ёсць у экспедыцыі мясцовыя людзі, якія цікавяцца краязнаўствам.

У нас сабраліся прадстаўнікі розных прафесій, пераважна ўсе працуюць ужо.

**– А вы?**

– Я яшчэ вучуся, але гэта, хутчэй, выключэнне.

**– Якому матэрыялу больш увагі надаяце?**

– Насамрэч, гэта залежыць ад даследчыка, ад тэматыкі, якая яго цікавіць. У асноўным акцэнт робіцца на этнаграфічны матэрыял.

Але ёсць людзі, якіх цікавіць міжваенны час, тапаграфія, тапаніміка. Звесткі абсалютна розныя. Не цураемся нічога, не абрываем людзей, калі яны расказваюць пра нейкі ўласны досвед адносна падзей ваеннага часу, бо потым гэты матэрыял можа быць выкарыстаны не толькі ў этнаграфічных мэтах. Сабраны матэрыял удзельнікі ў бліжэйшы час будуць апрацоўваць і ствараць агульны архіў экспедыцыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФЕСТЫВАЛІ

## Выканаўцы з Беларусі, Расіі і Украіны з'едуцца ў Шаблі

**ВАЛОЖЫН. Канцэрты, перфомансы, летнія гульні чакаюць удзельнікаў міжнароднага фестывалю музыкі на Валожыншчыне.**

Пройдзе ён 1 і 2 жніўня на зялёнай пляцоўцы хутара.

На фестывалі будзе арганізаваная паркоўка, кемпінг, фуд корт (месца продажу ежы і напояў), арт-маркет, спартыўная секцыя і, вядома ж, канцэртная пляцоўка.

Хутар "Шаблі" знаходзіцца на Валожыншчыне, у 80 кіламетрах ад Мінска.

На фестываль можна будзе дабрацца на спецыяльным аўтобусе, які будзе адпраўляцца ад станцыі метро "Каменная горка", а таксама на электрычцы альбо асабістым аўто.

**1 жніўня на сцэне выступяць:**

"БН" (BY)
Akute (BY)
"Без білета" (BY)
Animal ДжаZ (RU)
"Срэбнае вяселле" (BY)
"Нагу звяло" (RU)

**2 жніўня на сцэне выступяць:**

Navi (BY)
"Касіяпея" (BY)
Sounduk (BY)
"Батанік Проджэкт" (BY)
"Пятля Прыхільнасці" (BY)
The Toobes (BY)
"Сяргей Бабкін" (UA)
"Дэльфін" (RU)

**Творчасць:**

– Арт-аб'екты і інсталяцыі
– Воркшопы і творчыя майстэрні
– Сучасныя вулічныя мастакі
– Перфомансы
– Арт-маркет

**Забавы:**

– Валейбол
– Бадмінтон
– Ёга
– Дзіцячая пляцоўка
– Конкурсы

**Квіткі можна набыць у салонах сувязі:**

– "Сувязны" (ва ўсіх гарадах Беларусі)
– "Еўрасетка" (ва ўсіх гарадах Беларусі)

**Аддзел інфармацыі.**

МУЗЫКА

## Артур Міхайлаў – сёмы на Славянскім базары

**МАЛАДЗЕЧНА. Подзвіг фестывалю "Адна зямля" спявак з Маладзечна не паўтарыў. Тады, у 2012 годзе, ён узяў Гран-пры.**

Сёлета на фестывалі "Маладзечна-2014" Артур стаў другім. А вось на Славянскім базары – ужо сёмым.

Тым часам прадстаўнік Мексікі **Радрыга дэ ла Кадэна** выйграў XXIII Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2014". Па выніках двух фінальных дзён ён набраў 186 балаў і атрымаў Гран-пры.

Першая прэмія конкурсу дасталася **Віталіе Негруца** з Малдовы, які набраў 179 балаў, другая – **Вераніцы Дораш** з Украіны (177 балаў), трэцяя – **Дзіне** з Харватыі (175 балаў).

**Аддзел інфармацыі.**

ГІСТОРЫЯ

## Ад Кіева да Касуты: ушанавалі памяць Піліпа Орліка

**ВІЛЕЙКА. Зусім нядаўна "РГ" паведамляла, што кіраўніцтва Украіны, прадстаўнікі духавенства і грамадскасці ўсклалі кветкі да помніка стваральніку першай украінскай Канстытуцыі Піліпу Орліку ў Кіеве.**

А ў суботу памяць гетмана ўшанавалі і на яго малой радзіме – у вёсцы Касута на Вілейшчыне.

Якраз у гэты дзень тут святкавалі прастольнае свята царквы святых Пятра і Паўла. Пасля завяршэння літургіі і хроснага ходу госці ўрачыста ўсклалі кветкі да памятнага знака Піліпу Орліку. Выступалі прадстаўнікі Вілейскага райвыканкама, пасольства Украіны (дарадца-пасланнік **Валеры Джыгун**), украінскай дыяспары Беларусі – сярод іх і старшыня мінскага гарадскога аб'яднання украінцаў "Запавіт" **Галіна Калюжная**, якая з'яўляецца ініцыятарам ушанавання памяці Піліпа Орліка.

А на святочным канцэрце гучалі ўкраінскія і беларускія песні ў выкананні народнага калектыву аўтарскай песні "Элегія" з Вілейкі.

Гучалі вершы пра Піліпа Орліка: чытаў іх і вілейскі паэт **Уладзімір Цанунін,** і юная госця з Мінска пяцігадовая Аліна.

На плошчы перад царквой вяскоўцы маглі пабачыць выставу украінскай вышыванкі.

– Заўсёды задаволены тым, як нас прымаюць на Вілейшчыне – усё было выдатна, – кажа старшыня маладзечанскага культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны" **Леанід Лысакабылка,** які і расказаў нам пра падзею. – Мяркую, што жыхары вёскі Касута ганарацца тым, што такі вялікі чалавек, як Піліп Орлік, нарадзіўся на іх зямлі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

Старшыня маладзечанскага культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны" Леанід Лысакабылка трымае на руках пяцігадовую Аліну Пілюкову з Мінска, удзельніцу мінскага таварыства ўкраінцаў "Запавіт".

 



ПРЫРОДА

# Стварыць гарбату ў "Аптэкарскім садзе"

**МЯДЗЕЛ. У Нарачанскім краі 12 ліпеня адкрыўся экскурсійна-турыстычны комплекс "Аптэкарскі сад".**

Размешчаны ён у лясным масіве за вёскай Гатавічы, ля возера Белае. Займае плошчу больш за паўтара гектара.

Тут можна пазнаёміцца з працэсам вырошчвання, збору і сушкі лекавых раслін, даведацца пра іх шмат новага.

На тэрыторыі "Аптэкарскага саду" працуе фіта-гасцёўня, дзе можна пакаштаваць 12 рэцэптур гарбаты. Ёсць фіта-крама з лекавымі травамі і зборамі, дзіцячая пляцоўка.

– "Аптэкарскі сад" – адзіны ў краіне комплекс, створаны на аснове шматвяковага досведу еўрапейскіх кляштароў па вырошчванні і культываванні рэдкіх лекавых раслін, – падкрэслівае намеснік генеральнага дырэктара ААТ "БелАсептыка" **Аляксандр Рогач**.

**– З якой мэтай яго стварылі?**

– "Аптэкарскі сад" створаны ў межах Дзяржаўнай праграмы развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна на 2011 – 2015 гады. Адна з асноўных мэт яго адкрыцця – гэта прапаганда здаровага ладу жыцця сярод насельніцтва нашай краіны і замежных турыстаў. Адпачывальнікі маюць магчымасць атрымаць асалоду ад водару і акунуцца ў атмасферу лекавых траў, чыя гаючая сіла праверана вякамі.

**– Што, на ваш погляд, будзе найбольш цікава наведнікам?**

– Тое, што ў фіта-гасцёўні турысты могуць не толькі пакаштаваць ужо распрацаваныя нашымі спецыялістамі віды гарбаты, а нават стварыць уласны рэцэпт гаючага збору пад кіраўніцтвам траўніка з досведам.

Дарэчы, "БелАсептыка" вырошчвае ля Гатавічаў лекавыя расліны на плошчы 32 гектары. Тут расце каля 20 найменняў траў – радыёла ружовая, валяр'яна, сардэчнік, мята, крываўнік... І асартымент гэтых лекавых раслін пашыраецца з году ў год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Аляксандрам РОГАЧАМ.

**Наведнікі "Аптэкарскага саду" знаёмяцца з тым, як вырошчваюць лекавыя расліны.**

СЛУЖБА 101

## Каб не было пажараў. Парады гаспадарніку

**МНС дае парады кіраўнікам сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і распавядае пра асноўныя прычыны пажараў.**

У Мінскай вобласці кіпяць работы па падрыхтоўцы да ўборкі збожжавых. Штодня работнікі МНС праводзяць маніторынг гатоўнасці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да ўборачнай кампаніі.

Цяпер, летам, асноўны галаўны боль для МНС – папярэдзіць пажары і іншыя надзвычайныя здарэнні падчас уборкі ўраджаю.

Работнікі Маладзечанскага ГРАНС правялі маніторынгі гатоўнасці збожжаўборачнай тэхнікі і складоў грубых кармоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў раёна да правядзення ўборкі.

Хацелася б папярэдзіць кіраўнікоў гаспадарак аб неабходнасці даўкамплектавання ўсёй тэхнікі, занятай на ўборцы. Гэта дазволіць патушыць пажар адразу і праз гэта пазбегнуць вялікіх матэрыяльных страт.

Каб павысіць пажаробяспеку камбайнаў і збожжаўборачнай тэхнікі, кіраўнікам гаспадарак, камбайнерам трэба пастаянна сачыць за тэхнічным станам машын і механізмаў, спраўным станам прыстасаванняў для тушэння пажараў.

Усе ўборачныя агрэгаты павінны быць забяспечаны сродкамі пажаратушэння (камбайны – не менш чым двума спраўнымі парашковымі вогнетушыцелямі ОП-8, скрыняй з пяском, дзвюма рыдлёўкамі, швабрай для тушэння ржышча, спецыяльным гакам для выдалення саломістай масы, што набілася ў механізмы, кашмой – спецыяльным супрацьпажарным покрывам 1,5 х 1,5). А выпускныя трубы рухавікоў – спраўнымі іскрагасільнікамі.

У месцах уборкі збожжавых трэба, каб абавязкова была пажарная альбо прыстасаваная для пажаратушэння тэхніка. Яна павінна быць забяспечаная вадой і пажарна-тэхнічным узбраеннем. Таксама мусіць быць трактар з плугам.

### Галоўная прычына пажараў

Як паказвае аналіз за мінулыя гады, галоўная прычына пажараў – неасцярожнае абыходжанне з агнём.

Асаблівую ўвагу выратавальнікі надаюць захаванню супрацьпажарнага рэжыму, абмежаванню доступу пабочных асоб у месцы захоўвання ўраджаю.

Падчас супрацьпажарных інструктажаў з кіраўнікамі прадпрыемстваў і іх работнікамі выратавальнікі заўсёды нагадваюць, што кожны работнік сельскагаспадарчай сферы абвязкова павінны захоўваць правілы пажарнай бяспекі.

Кіраўнікам сельскагаспадарчых прадпрыемстваў трэба звярнуць увагу на выкананне правілаў пажарнай бяспекі пры захоўванні грубых кармоў.

Узнікненню і павелічэнню колькасці пажараў камбайнаў спрыяе неасцярожнае абыходжанне з агнём дарослых і дзяцей (развядзенне вогнішчаў, курэнне і г.д.), тэхнічная няспраўнасць уборачных машын і парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры іх эксплуатацыі, іскры ад збожжаўборачнай тэхнікі.

МНС яшчэ раз нагадвае, што ўсе асобы, задзейнічаныя ва ўборачнай кампаніі, павінны ведаць і выконваць правілы пажарнай бяспекі.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

МУЗЕІ

## Нацыянальны музей Беларусі ладзіць выставу ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ. У Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі пройдзе выстава, прысвечаная 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны. Пачнецца яна 1 жніўня.**

Арганізаваная выстава Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі. Яна будзе падзеленая на некалькі раздзелаў, у тым ліку: "Пачатак дваццатага стагоддзя", "Ваеннае жыццё", "Баявыя дзеянні", "Гуманітарная катастрофа", "Брэсцкі мір", "Памяць беларускага народа".

Сярод мноства экспанатаў будуць і тыя, што пакажа смаргонскі музей. Такіх – больш за 20.

Працягнецца выстава да 21 верасня, паведаміла дырэктар Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея **Любоў Белуш**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДПАЧЫНАК

## У "Зубраня" зноў прыедуць японцы

**МЯДЗЕЛ. Японскія дзеці, якія пацярпелі ад аварыі на АЭС "Фукусіма", прыедуць на аздараўленне ў "Зубраня".**

Адпачываць у Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры яны будуць ад 23 да 31 ліпеня і ад 1 да 9 жніўня. Агулам на Нарач прыедуць 32 хлопчыкі і дзяўчынкі з Японіі.

Такі візіт арганізуецца трэці год запар. Падчас яго юныя японцы не толькі адпачываюць, аздараўліваюцца і знаёмяцца з беларускімі традыцыямі ў дзіцячым цэнтры, але і наведваюць адметныя мясціны Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**

МЯЖА

## Хаваў рыштунак для альпіністаў

**АШМЯНЫ. Кіроўца спрабаваў правезці яго на 400 мільёнаў праз ашмянскую мытню "Бенякові". Яго затрымалі.**

6 ліпеня на пост пад'ехаў грузавы аўтамабіль "МАН". У ім везлі абутак, аўтазапчасткі, а таксама рыштунак для заняткаў альпінізмам.

Пасля мытнага дагляду высветлілася, што альпіністам везлі гэтых прыстасаванняў амаль на 700 больш, чым было пазначана. Кіроўца ехаў з Літвы ў Расію.

Супрацоўнікі мытні пачалі адміністрацыйны працэс.

**Па інфармацыі Ашмянскай мытні.**



Фота Ашмянскай мытні.

**700 прыстасаванняў нелегальна хацеў правезці кіроўца.**







 

● ВЯЛІКІ СПОРТ

# Разыгралі кубак па пляжным валейболе

**МАЛАДЗЕЧНА. 11-13 ліпеня на пляжным стадыёне адбыўся розыгрыш Кубка Беларусі па пляжным валейболе сярод мужчынскіх і жаночых камандаў.**



Фота з сайта bvf.by/

У Маладзечне ў нядзелю вызначыліся ўладальнікі і прызёры Кубка Беларусі па пляжным валейболе.

Пераможцамі сталі **Аляксандр Дзядкоў / Аляксандр Каваленка і Яна Мілеўская / Вікторыя Шалаеўская**. Яны атрымалі галоўныя прызы і па 500 ачкоў у рэспубліканскі рэйтынг.

Пра гэта піша сайт беларускай федэрацыі валейбола – bvf.by. У суботу адбыліся матчы плэй-оф, і 13 ліпеня квартэты наймацнейшых камандаў разыгралі месцы на п'едэстале.

У мужчын да паўфіналу дабраліся **Аляксандр Дзядкоў і Аляксандр Каваленка, Яўген Вішнеўскі / Яўген Есауленка, Максім Лішчук / Максім Будзюхін** (Гомель). Калі для першых выхад у паўфінал звыклая справа, то Яўгену Вішнеўскаму і Яўгену Есауленку прыйшлося папацець, каб апынуцца на гэтай стадыі.

У 3-м раўндзе плэй-оф яны з цяжкасцю абыгралі пару Міхайлаў / Балоцька – 21:13, 16:21, 16:14. У 4-м раўндзе за права выхаду ў паўфінал ім супрацьстала пара Антон Дзяткоў-малодшы і Антон Сінгаеўскі, якая набірае ход у гэтым сезоне. Пара Дзядкоў-малодшы / Сінгаеўскі ўсё ж саступілі ў трох партыях – 17:21, 21:19, 10:15.

У жанчын прадстаўніцтва камандаў больш сціплае.

Галоўнай стратай на папярэдняй стадыі плэй-оф – вылет пары **Валерыя Бабенка / Анастасія Казачэнка.** Пакуль асаблівых праблем па турнірных сетцы не зведала толькі пара **Яна Мілеўская і Вікторыя Шалаеўская**. Адзначым, што ў Кубку не змаглі прыняць удзел цэлая група валейбалістак: **Вольга Рахман, Алена Бернатовіч, Вікторыя Сакрэтава** – усе залечваюць траўмы і рыхтуюцца да этапу EEBVZA Belarus open, які стартуе ў пятніцу ў Маладзечне.

Матч за 3-е месца ў Кубку Беларусі сярод мужчын атрымаўся хутка-плынным. Барацьба паміж Антонам Дзядковым / Антонам Сінгаеўскім і Яўгенам Вішнеўскім / Яўгенам Есауленкам меркавалася ўпартая, але падчас першай партыі непрыемную траўму нагі атрымаў Антон Сінгаеўскі, і пасля нарады з трэнерамі і дактарамі, гульцы прынялі рашэнне спыніць выступленне.

Што ж да фіналу, то першыя нумары – Дзядкоў / Каваленка – упэўнена кантралявалі ход сустрэчы ў супрацьстаянні з Максімам Лішчуком і Максімам Будзюхіным. Выхад гомельскай пары ў фінал кубка цягне на сенсацыю, і паказчык таго, што таленавітай моладзі ў Беларусі дастаткова.

Жаночы Кубак Беларусі праходзіў на фоне рэпетыцыі да этапу EEVZA, які пройдзе ў Маладзечне на гэтым тыдні. У вырашальных гульнях за ганаровы трафей з тых гульцоў, хто быў заяўлены на гэты міжнародны турнір, прымалі ўдзел толькі **Яна Мілеўская / Вікторыя Шалаеўская**. Мінска-маладзечанскі тандэм у выніку і выйграў Кубак Беларусі.

У фінале ім супрацьстаялі **Анастасія Каваленка / Кацярына Руц** з каманды "Газпром-Трангаз Беларусь". Барацьба ў вырашальным матчы атрымалася сур'ёзная. Першы сэт Мілеўская і Шалаеўская выйгралі з цяжкасцю 23:21, Каваленка / Руц вялі і па ходзе другой партыі, але ўдала згулялі Яна і Віка, падалі падачу, а завяршыўся матч дакладным блокам Мілеўскай – 2:0.

Ужо ў пятніцу, 18 ліпеня, стартуе буйны міжнародны турнір "Belarus Open-2014", этап EEVZA, сярод жаночых камандаў, балы ад якога ідуць у залік сусветнага рэйтынгу. У Маладзечна прыедуць моцныя каманды з Украіны, Расіі, Латвіі і Літвы. Беларусь будзе прадстаўлена парамі **Вікторыя Шалаеўская / Вікторыя Сакрэтава, Валерыя Бабенка / Яна Мілеўская, Алена Бернатовіч / Марына Паўлава, Анастасія Казачэнка / Кацярына Казак.**

Турнір "Belarus open" пройдзе ў Маладзечне з 18 да 20 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**

● ФУТБОЛ

## Браты Макоўскія дапамагаюць "Віліі"

**ВІЛЕЙКА. Вядомых беларускіх футбалістаў выхаванцаў маладзечанскага футбола Уладзіміра і Міхаіла Макоўскіх цяпер можна пабачыць у складзе "Віліі". Яны дапамагаюць вілейскай камандзе змагацца ў чэмпіянаце вобласці.**

Вось што расказаў капітан "Віліі" **Алег Гулевіч.**

**– Як браты Макоўскія з'явіліся ў складзе вілейскай каманды?**

– У камандзе ёсць гульцы з Маладзечна, і з братамі Макоўскімі яны добра кантактуюць. Прапанавалі Уладзіміру і Міхаілу пагуляць за "Вілію" – яны не адмовіліся. Ведаюць, што ў нас калектыў добры. Яны ў Вілейку прыязджалі, яшчэ калі зусім маладыя былі. У чэмпіянаце раёна гулялі, і ў турніры ў зале ўдзельнічалі, і разам з са мной і іншымі футбалістамі за Мінскую вобласць выступалі.

**– Яны ж не кожны матч гуляюць за "Вілію"?**

– Не кожны. Як у іх атрымліваецца, як вольны час ёсць.

**– І галы забіваюць...**

– Так. Дапамога вельмі моцная. Адразу адчуваецца, што добрыя гульцы.

**– На якіх пазіцыях звычайна гуляюць?**

– Пераважна яны па адным гуляюць – то ў цэнтры паўабароны. Але вось у Жодзіне, і ў апошнім матчы з "Забудовай-2007" удваіх гулялі.

**– Задаволеныя такім падмацаваннем каманды?**

– Вядома. Пагуляць разам з імі – гэта добры досвед для нашых маладых гульцоў. І вялікі дзякуй Уладзіміру і Міхаілу, што не адмаўляюцца за нас гуляць.

**– Надалей у матчах другога круга ці ўбачым братоў Макоўскіх ў складзе "Віліі"?**

– Будуць гуляць, калі будуць знаходзіць час паміж сваімі асноўнымі абавязкамі.



Фота fcisloch.by/

Выхаванцы маладзечанскага футбола блізняты Уладзімір і Міхаіл Макоўскія.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● НАВІНЫ

### Смаргонцы падзялілі ачкі з "Зоркай-БДУ"

**СМАРГОНЬ.** Суботнюю гульню "Смаргонь" завяршыла ўнічыю. Гульня 14 тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе праходзіла 12 ліпеня ў Мінску. Супрацьстаянне "Зоркі-БДУ" і "Смаргоні" скончылася мірам – 1:1.

Гаспадары забілі гол ужо на другой хвіліне. Смаргонцы ў адказ – на 38-й хвіліне. Вызначыўся **Мікалай Рындзюк.**

Вось што расказаў у інтэрв'ю fc-smorgon.by абаронца ФК "Смаргонь" **Раман Гаркуша:**

**– Ці задаволены зыходам сустрэчы?**

– Не, страцілі два ачкі. Мы ехалі толькі за перамогай, а прывезлі гол.

**– Тое, што "Зорка-БДУ" займае другое месца па забітых галах, неяк паўплывала на падрыхтоўку?**

– Так, Павел Іосіфавіч казаў, што сапернік няпросты. Мы таксама настройваліся быццам бы. Але чагосьці не хапіла.

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" перамагае ў прынцыповым матчы

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН.** Пасля невялікага перапынку прадоўжыліся гульні чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. У дзясятым туры "Маладзечна-ДЮСШ-4" 13 ліпеня дома прымала прынцыповага саперніка – ФК "Барысаў". Барысаўчане ішлі другімі, на тры ачкі адставалі ад лідараў групы, маладзечанцаў, і ў выніку перамогі даганялі б тых па набраных ачках.

Аднак футбалісты "Маладзечна-ДЮСШ-4" зрабіць ім гэта не дазволілі і перамаглі з лікам 2:1. Галы ў гаспадароў на рахунку **Татуна** і **Бугая.**

"Валожын-2010" 12 ліпеня згуляў баявую нічыю з "Беразіно" 3:3. Аднак гэта ім не дапамагло падняцца вышэй па турнірнай табліцы. Наадварот, "Валожын-2010" апусціўся на апошняе, дзясятае, месца ў групе "А".

### На дваіх – дзевяць галоў

**ВІЛЕЙКА.** Багаты на галы матч выдалі "Вілія" і "Забудова-2007". У нядзелю ў Вілейцы яны на дваіх забілі дзевяць галоў. Вынік – 5:4 на карысць "Забудовы-2007".

– Пачатак матча для нашай каманды выдаўся правальным: да 15-й хвіліны прайгралі ўжо 0:4. Збольшага, з-за памылак абаронцаў, – каментуе матч капітан "Віліі" **Алег Гулевіч.** – Правялі замены, зрабілі перастаноўкі на полі. Сталі кантраляваць гульню, пайшлі ў атаку і да перапынку скарацілі адставанне да 2:4. Прадоўжылі атакаваць у другім тайме. Шмат момантаў было, але забіць не маглі. Наадварот, прапусцілі гол. Але гуляць не кінулі, два галы адквіталі. Аднак ужо да канца матча заставаліся дзветры хвіліны, і зраўняць лік не змаглі.

Асноўны ўклад у перамогу "Забудовы-2007" унёс **Астэртах**, на рахунку якога тры галы. У "Віліі" найбольш выніковым гульцом стаў **Грыхуцік** (два галы).

"Забудова-2007" зараз займае пятае месца ў групе "А", "Вілія" – шостае.

### На чэмпіянат раёна

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце Вілейскага раёна па футболе 12 ліпеня адбыліся дзве гульні. "Вязань" перамагла "Чурлёны" 3:1, а "Шылавічы" прайгралі камандзе "Першы Беларускі" 2:4, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

### Перамагла каманда "Мехатроніка"

**ВІЛЕЙКА.** Ад 11 да 13 ліпеня на беразе Вілейскага вадасховішча (Чыжэўская затока) прайшоў адкрыты міжрэгіянальны турзлёт працоўнай моладзі на прызы таварыства "Мехатроніка". Прысвячаўся ён памяці **Віталя Кастэнкі.**

Сабралася восем камандаў – прычым, не толькі з Вілейшчыны (летась у падобным раённым злёце удзельнічала сем камандаў).

Удзельнікі пераадольвалі турыстычную паласу, сапернічалі ў начным арыентаванні, сілавым дваяборʼі, турнірах па міні-футболе і валейболе, спаборніцтвах па веславанні і каноэ, дартсе, гарадошным спорце, перацягванні каната. Праводзіўся конкурс быту.

Перамагла на злёце каманда таварыства "Мехатроніка". Другое месца – у прадстаўнікоў аддзела адукацыі, спорту і турызму, трэцяе – у турыстаў з "Энергазбыту".

### Хакей

**МАЛАДЗЕЧНА.** Стаў вядомы расклад спарынгаў, які правядзе хакейная каманда "Дынама-Маладзечна" у бліжэйшы час.

4 і 6 жніўня на лёдзе Брэсцкага лядовага палаца дынамаўцы згуляюць з хакейнай камандай "Сахалін". Там жа 5 жніўня сустрэнуцца з ХК "Брэст". Матч у адказ адбудзецца 9 жніўня ў Маладзечне.

7 жніўня "Дынама-Маладзечна" згуляе з прадстаўніком Беларусі ў МХЛ – "Дынама-Шыннікам". Спарынг адбудзецца ў горадзе Бяроза.

Акрамя гэтага запланаваныя яшчэ два паядынкі на 13 і 15 жніўня. Сапернікі, час і месца правядзення сустрэч стануць вядомыя пазней.

Уваход на гульню 9 жніўня ў Маладзечне будзе вольны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Купіць тэлевізар – як згуляць у латарэю

"Мага", па вашай логіцы, калі малюнак стаў цьмяным, ці гук дрэннай якасці, ці тэлевізар наогул перастаў паказваць прыкметы жыцця – гэта не падстава звароту ў рамонтны цэнтр! Трэба падумаць, можа вы чым пакрыўдзілі той тэлевізар? Трэба папрасіць прабачэння, знасіць яго ў рэстаран. Калі і гэта не дапаможа, то трэба запісацца на прыём да псіхолага па сямейных адносінах… Гэта сапраўды дапаможа. ***Вадзіла.***

### Сёння ў Валожыне пройдзе пікет супраць будаўніцтва жылых дамоў на месцы пахавання яўрэяў

Актуальная тэма, як выдатна, што ёсць людзі, якія неабыякавыя да таго, што адбываецца. Памяць аб загінулых, вядома, трэба абараняць ад сучасных рэалій. Дзякуй, Наталля і Настасся, што асвятлілі важную тэму. Дзякуй, Георгі, за Вашу працу. Важна прыцягнуць увагу грамадскасці і СМІ да гэтай тэмы. ***Уладзімір Уладзіміравіч.***

Вайна пакінула свой адбітак на нашай зямлі, і мы павінны памятаць, праз што прайшлі нашы дзяды. Але Уладзімір Уладзіміравіч, сучасныя рэаліі заключаюцца ў тым, што ўсе маўчаць да таго часу, пакуль хтосьці іншы не пачне нешта рабіць. Як Вы думаеце, прымаецца рашэнне на пабудову жылога дома? Гэта кілаграмы папер суправаджальнай дакументацыі і дазволаў, не адзін год папяровай працы і валакіты! За дзень рашэнне не прымаецца! Ды і інфармацыя аб рашэнні будаўніцтва не сакрэтная, планы забудовы ў агульным аглядзе. І атрымліваецца, што ўсе пра ўсё ведаюць, усіх задавальняе. А як рабіць пачынаюць, дык адразу крыкі з усіх бакоў: "Людзі, хапайце вілы!" Што за трызненне? Раніцай на магілах у футбік дзеці гулялі, а вечарам моладзь піва піла, і спадар Георгі быў задаволены. А ў той час кіраўнікі галаву ламалі, як бы домік для народа пабудаваць на пагорыстай мясцовасці, ды так, каб яшчэ грошыкі на "майбах" засталіся! Як наогул было магчыма дапусціць, каб дзеці на магілах гулялі? Сёння выходзяць людзі з лозунгам "Не – будоўлі на магілах!", а заўтра выйдуць "Я жыву на балконе – дайце мне кватэру!" І як быць? А ў выніку прыедуць турэцкія будаўнікі, абнясуць усё плотам, выкапаюць ямку пад падмурак, кінуць рыдлёўкі і паедуць дадому, як было ў некаторых гарадах Беларусі. І будзе Вам помнік і яўрэям, і будаўніцтву. Упэўнены на 85%. ***Вадзіла.***

### Жыхар Валожыншчыны бег да суседзяў з крыкам: "Ратуйце! Уварваліся ўкраінцы і захапілі жонку"

Ну вось, давялі мужыка да "белачкі". Чакаем гісторый пра тое, як чарговыя ўкраінцы захапілі да сябе ў лятаючую талерку яшчэ аднаго Валерку. Гарэлка і ТБ-навіны – адчуй водар прыгодаў! ***Давыд.***

Давыд, прычым тут ТБ? Такім казку пра Калабка раскажы, дык яны з батонам усю ноч размаўляць будуць. Я б сказаў, гарэлка і адсутнасць мазгоў – пякельная сумесь! Прычым адсутнасць мазгоў ва ўсёй кампаніі! Чалавек слінай пырскаецца, сам з сабой размаўляе, а ім усё роўна. Мірна спаць ляглі! Значыць, не ўпершыню ў мужыка "белачка" ўключаецца. Ды і далей спаць з дзіркай у жываце… Трэба ўсю кампанію ў Навінкі! Ды так там абкалоць, каб на гародніну сталі падобныя, а не на выбары 2015 клікаць! Дзіця шкада…***Вадзіла.***

● СМАЧНА ЕСЦІ

# Чаго толькі ўкраінцы ў боршч не дадаюць!

Фота забяспечана Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

**Сябры таварыства "Краяны" Лілія Рагуль, Леанід Лысакабылка і Валянціна Бусяк прапаноўваюць стравы ўкраінскага стала на свяце горада Маладзечна 4 ліпеня.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэцэптам традыцыйнага ўкраінскага баршча дзеліцца з чытачамі "Рэгіянальнай газеты" старшыня маладзечанскага культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны" Леанід Лысакабылка.**

– Частаваць маладзечанцаў украінскімі стравамі звыклая з'ява для ўдзельнікаў таварыства "Краяны". Пакаштаваць галушкі, гуцулькі, варэнікі, боршч, і, канешне ж, украінскае сала ўсе ахвотныя маглі на свяце горада Маладзечна, якое адзначалася 4 ліпеня, – распавёў спадар Леанід.

Для тых шчаслівычыкаў, хто паспытаў сапраўдны чарнігаўскі боршч на свяце, і для тых, каму пашчасціла меней, Леанід Лысакабылка пагадзіўся раскрыць рэцэпт стравы, ад аднаго паху якой кружыцца галава.

– Я з вамі падзялюся самым галоўным сакрэтам украінскага баршча. Беларусам, калі нешта гавораць не тое, звычайна адказваюць: "Ну, ты ляпнуў абы-што". Украінцам жа ў такіх выпадках адказваюць: "Ну ты такое ляпнуў, чаго і ў боршч не пакладзеш". Гаворачы інакш, ва ўкраінскі боршч можна класці абсалютна ўсё!

**Каб прыгатаваць боршч чарнігаўскі неабходна:**

*зварыць мясны булён, гатовае мяса (хай гэта будзе свініна) нарэзаць порцыямі, булён працадзіць. Нарэзаныя саломкай буракі патушыць з памідорамі. Пятрушку (корань), моркву і цыбулю абсмажыць у масле. Кабачкі нарэзаць кубікамі і таксама абсмажыць. Асобна зварыць фасолю.*

*У булён пакласці нарэзаныя саломкай капусту, бульбу і варыць 15-20 хвілін. Затым дадаць фасолю з адварам, абсмажаныя кабачкі, тушаныя буракі, цыбулю, пятрушку і моркву, а таксама кіслыя яблыкі і свежыя памідоры, духмяны перац, лаўровы ліст і давесці да гатоўнасці.*

Пры падачы на стол у талерку з баршчом пакласці кавалак мяса, смятану, пасыпаць дробна нарэзанай зелянінай пятрушкі.

Памятайце пра тое, што эканоміць час на прыгатаванні баршча не варта. Чым даўжэй ён варыцца, томіцца, тым больш насычаны і духмяны атрымаецца.

**Наталля ТУР.**

● ГАРАСКОП (18-24 ЛІПЕНЯ)

**Авен.** Лоўкасць і кемлівасць дапамогуць у складаных сітуацыях і зробяць вас больш моцнымі ўнутры. Не трацце дарэмна грошы. Будзьце разважлівыя і мудрыя.

**Цялец.** Выдатны перыяд, аднолькава добры як для новых спраў, так і для завяршэння старых. Вам шанцуе ва ўсім, карыстайцеся гэтым, каб дасягнуць поспеху.

**Блізняты.** Будзьце вышэй за непрыемныя дробязі і не забывайце пра пачуццё гумару – яно ператворыць трагедыю ў камедыю і засцеражэ ад сварак.

**Рак.** Перыяд прынясе прыліў жыццёвых сіл, у шмат каго з вас з'явіцца адчуванне, што мора па калена. І менавіта таму вы возьмецеся за справы, якія наогул нікому не па сілах. Не адмаўляйцеся ад дапамогі.

**Леў.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Дзева.** Перыяд будзе звязаны з вялікай колькасцю хваляванняў і клопатаў. Аднак адносіны паміж сваякамі, каханым будуць вельмі добрыя, вас будуць падтрымліваць, заспакойваць. Гэта дасць новыя сілы.

**Шалі.** Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.

**Скарпіён.** Не прымярайце на сябе вобраз сапраўднага дамашняга тырана! А то вы як быццам дакладнае ведаеце, што кожнаму трэба рабіць. Ад гэтага ўзнікнуць толькі праблемы.

**Стралец.** Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх. Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.

**Казярог.** Грашовыя пытанні не будуць праблемай, грошай будзе хапаць не толькі на бязбеднае існаванне, але і на тое, каб зрабіць запас.

**Вадалей.** Вы можаце разлічваць на шчаслівы выпадак ці паварот да лепшага ў сваім жыцці. Не ўпусціце свой шанец! Будзьце ўважлівыя і выкарыстоўвайце сітуацыю, якая складзецца, сабе на карысць.

**Рыбы.** Пастарайцеся настроіцца на пазітыўны лад, і жыццё адразу стане гарманічным.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | 3 | | | 4 | | |
| | | | | 8 | | | 1 | 9 |
| | 5 | | | 9 | | | 6 | 7 |
| | | | | 3 | 8 | 9 | | 6 |
| | | 9 | | | | 2 | | |
| 8 | | 7 | 5 | 2 | | | | |
| 1 | 8 | | | 5 | | | 9 | |
| 3 | 7 | | | 4 | | | | |
| | | 4 | | | 1 | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйная камедыя "**Як прыручыць дракона 2" 3D** (ЗША, 2014)
19-20 ліпеня – у 13:00
Цана білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Трансформеры: Эпоха знішчэння**" 3D (ЗША, Кітай, 2014, 2 серыі)
18 ліпеня – у 15:30
19-22 ліпеня – у 18:00
23 ліпеня – у 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Камедыя "**Змешаныя**" 2D (ЗША, 2014)
18 ліпеня – у 18:30
20 ліпеня – у 15:30
23 ліпеня – у 18:30
Цана білета – 40 000 рублёў

Фантастычны трылер "**Перавага**" 2D (Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, 2014)
19 ліпеня – у 15:30
21 ліпеня – у 21:00
Цана білета – 40 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастычны трылер, баевік "**Планета малпаў: рэвалюцыя**" 3D (ЗША, 2014)
18-20 ліпеня– у 21:00
22 ліпеня – у 21:00
23. ліпеня – у 16:00
24 ліпеня – у 18:30

Прэм'ера! Баявік, прыгоды "**Геракл**" 3D (ЗША, 2014)
24 ліпеня – у 21:00

Анімацыйныя прыгоды "**Кароль сафары**" 3D (ПАР, 2013)
24 ліпеня – у 16:30

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Пушыстыя супраць Зубастых**" (Паўднёвая Карэя, ЗША, 2012)
18-20 ліпеня – у 16:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, 2013)
22 ліпеня – у 16:00
23 ліпеня – у 16:30
24 ліпеня – у 16:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Фэнтэзі, меладрама "**Цудоўныя стварэнні**" (ЗША, 2013)
18-20 ліпеня – у 19:00 і 21:30
21-23 ліпеня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, 2013)
24 ліпеня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**




Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень


## НАДВОР'Е

19 ліпеня, субота

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 +25 744 ↓ 3 | +14 +25 742 ↘ 2 | +15 +24 739 ↘ 1 | +15 +23 737 ↙ 1 |
| Вільня | +13 +22 753 ↘ 4 | +14 +2 751 ↘ 1 | +14 +23 748 ↓ 4 | +14 +20 743 ↓ 4 |

Тэмпература Вобланачасць паветра Ападкі Ціск Хуткасць ветра (мм рт. сл.) м/с; Усход, захад па Мала-зенне

Усход 5.04 Захад 21.33 Даўжыня дня 16.31

Усход 0.02 Захад 14.26 Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- Мноства ягад летам прадвяшчае халодную зіму.
- 21 ліпеня ў беларусаў-каталікоў – Данат. "Святы Данат коскі то-чыць, сянцо косіць.




Далонька і малодшы сын Алесі Клімовіч Мікола на "Вольным паветры- 2014".

## СЯМЕЙНЫЯ РАДАСЦІ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

# Сабачку назвалі Далонькай

**МАЛАДЗЕЧНА. Наша чытачка Алеся Клімовіч назвала свайго сабачку Далонька.**

Нам стала цікава, чаму ж Далонька, а не Джэк, Мэры ці Джэсі. Вось што расказала нам Алеся:

– Наша сям'я даўно вырашыла, што хочам мы меnавіта сабаку пароды Джэк Расэл тэр'ер, такі быў у героя Джыма Кэры ў фільме "Маска". Шукалі шчанюка па газадвальніках, якія займаюцца гэтай пародай. І знайшлі. Не далёка, не блізка – ва Украіне. Убачылі фота маленькага белага камячка і зразумелі, што ён – наш.

Мянушка ў нашай "дзяўчынкі" павінна была пачынацца на літару "Д". Такія правілы: кожны памёт, які нараджаецца ў гадавальніку, мае сваю літару. Мянушку выбіралі разам з дзецьмі. Я ім прапанавала адну на англійскай мове, бо дзеці часцей за ўсё звяртаюцца менавіта ёй, і Далонька – на беларускай. І дзеці сказалі: "Толькі Далонька!" Напэўна, каб мы ўзялі "хлопчыка", то назвалі б Дзьмухаўцом.

Потым узнікла асацыяцыя "далонька пяшчоты", і так і засталося. І, ведаеце, гэта сябе апраўдвае. Колькі ўжо чалавек прасілі дазволу пагладзіць яе! Колькі далонек! Дзеці, асабліва дзяўчынкі, у нашым двары яе любяць і нясуцца з крыкамі: "Далонька, Далоня!"

Накошт улюбёных прысмакаў нічога не магу сказаць, бо, напэўна, каб мы дазволілі, то яна з'ела б усё – апетыт у яе добры. А вось улюбёная яе гульня – гэта футбол. Калі на дварэ дзеці гуляюць з мячом, то Далонька проста зрывае ланцужок, каб пусцілі пабегаць разам з імі.

Яна вельмі актыўная, і менавіта з-за гэтага мы выбралі гэтую пароду. Бо нашы сыны Ян і Мікола жадалі, каб з сабакам можна было пагуляць у мяч, пакідаць яму лятаючую талерку.

Праз пару дзён Далоньцы споўніцца 8 месяцаў, яна ўжо паўдзельнічала ў выставе і атрымала свой першы медаль.

**Запісала Наталля ТУР.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Байкеры па начах перашкаджаюць спаць. Куды глядзіць міліцыя? На пытанні нашых чытачоў адкажам у наступным нумары.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 29 (1003) 18.07.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на правы ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 606. Падпісана ў друк у 10.00 17.07.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.